***Быць нацыяй — гэта па сутнасьці самая ўнівэрсальная легітымная каштоўнасьць у палітычным жыцьці нашага часу.***

Бэнэдыкт Андэрсан. “Уяўныя супольнасьці”

***Самасьвядомасьць народу або цывілізацыі засяроджваецца на тым, што мы называем “культурай”. І калі гэтая самасьвядомасьць падвяргаецца пагрозе зьнікненьня, інтэнсіўнасьць культурнага жыцьця адпаведна ўзрастае, яна набывае ўсё большае значэньне, пакуль культура не становіцца жыцьцёва неабходнай каштоўнасьцю, якая аб’ядноўвае народ.***

Мілан Кундэра. “Трагедыя Сярэдняй Эўропы”



# УВОДЗІНЫ: АГУЛЬНАЯ СЫТУАЦЫЯ

Нягледзячы на тое, што ад ліквідацыі Савецкага саюзу прайшла чвэрць стагодзьдзя, беларуская культура застаецца падзеленай на дзьве “культуры”, якія вызначаюцца шмат у чым рознымі традыцыямі, рознымі каштоўнасьцямі, рознай эстэтыкай і мала ўзаемадзейнічаюць паміж сабой. Такая сытуацыя паралельна існых афіцыйнай і андэрграўндавай неафіцыйнай культураў была ўласьцівая савецкаму грамадзтву і ўвогуле характэрная для рэжымаў, дзе дзяржава імкнецца ўтрымаць кантроль над амаль усімі сфэрамі жыцьця.

Цяпер няма такога татальнага ціску, які быў пры савецкім рэжыме, да таго ж, цяперашняя “неафіцыйная” культура значна шырэйшая за “клясычны” андэрграўнд, таму далей для зручнасьці мы будзем называць гэтыя плыні “афіцыёз” і “нонафіцыёз” (іншыя крыніцы прапануюць вызначэньні “ляяльная” і “незалежная”).

Афіцыёз атрымлівае дзяржаўную фінансавую падтрымку, шырокі доступ да дзяржаўных мэдыяў

і пляцовак. Нонафіцыёз ня мае доступу да дзяржаўных сродкаў, цэнзуруецца ці ўвогуле забараняецца, амаль не існуе для падкантрольных уладзе СМІ. Дзяржава імкнецца кантраляваць ня толькі належныя ёй установы, накшталт "палацаў культуры", філярмоніяў, тэатраў і ВНУ, але і так званыя "творчыя саюзы", якія, мала зьмяніўшыся, захаваліся з савецкага часу. Дзейнасьць шоў-бізнэсу таксама моцна кантралюецца дзяржаваю, якая валодае абсалютнай большасьцю экспазыцыйных, канцэртных і тэатральных пляцовак. Глебаю для функцыянаваньня нонафіцыёзу ёсьць няўрадавыя арганізацыі, нефармальныя аб'яднаньні і групы, асобныя энтузіясты.

Нягледзячы на пэўны фармальны прафэсіяналізм афіцыйнай культуры, яе праявы ва ўсіх кірунках адрозьніваюцца адсутнасьцю моцнага творчага патэнцыялу, фантазіі, ініцыятывы. Спрабуючы прадукаваць "ідэалягічна правільную" культурную прадукцыю, майстры афіцыёзу топчуцца паміж парэшткамі "сацрэалізму" і звычайнай пошласьцю. Адзін зь яскравых прыкладаў падобнага афіцыёзу — слынны фэст "Славянскі базар" у Віцебску. Менавіта падобны ўзровень прапануецца масаваму спажыўцу культуры як узор.

Але жывучасьць афіцыёзу тлумачыцца ня толькі фармальнай падтрымкай дзяржаўных структураў. Афіцыёз — прадукт асаблівай постсавецкай сьвядомасьці, якая закансэрвавалася ў Беларусі праз адсутнасьць рэфармаваньня грамадзтва. Сёньня на базе гэтай "постсавецкасьці"

квітнее настальгія па савецкім часе, канфармізм, адмаўленьне эўрапейскіх каштоўнасьцяў і ўласных традыцыяў. Гэтая постсавецкасьць чужая беларускай нацыянальнай ідэнтычнасьці, і менавіта яна ёсьць спажыўным асяродзьдзем для ўкараненьня тут “русского мира”. Сьветапогляд, які адпавядае дзяржаўнай ідэалёгіі, цалкам будуецца на постсавецкай парадыгме.

Такім чынам, існаваньне дзьвюх культураў у Беларусі — гэта вынік існаваньня двух сьветапоглядаў, дзьвюх асноўных ідэнтычнасьцяў: эўрапейска-беларускай і савецка-беларускай. (Падрабязны аналіз гэтай зьявы — асобная тэма). Канфлікт паміж імі не заўсёды ляжыць на паверхні, але пераважна ім вызначаецца сучасная культурная сытуацыя ў Беларусі.*

---

* Адзін зь нешматлікіх прыкладаў аналізу культурнай сытуацыі прыведзены ў справаздачы з “Маніторынгу рэалізацыі Рэспублікай Беларусь Канвэнцыі ЮНЭСКА аб ахове і заахвочваньні разнастайнасьці формаў культурнага самавыражэньня” (http://cet.eurobelarus.info/files/userfiles/5/CET/2015_Convention_UNESCO-Monitoring.pdf).
(Пры цытаваньні: “Маніторынг ЮНЭСКА“)



# ПРАБЛЕМА

Нацыянальная ідэнтычнасьць будуецца ня толькі на існаваньні пэўнай “нацыянальнай тэрыторыі” ці эканомікі. Яшчэ большую важнасьць мае наяўнасьць культурнай традыцыі, агульнай гістарычнай памяці. Разам з моўным фактарам, усё гэта будуе нацыянальную сьвядомасьць, нацыянальную ідэнтычнасьць. Такім чынам, нацыянальная культура ёсьць адным з падмуркаў існаваньня нацыі таксама ў яе палітычным пляне. Калі не захаваць нацыянальную культурную традыцыю, эўрапейскі вэктар і арыгінальны крэатыўны імпульс, Беларусь перастане існаваць як адметная культурная прастора. Страта ідэнтычнасьці вядзе да страты дзяржаўнасьці.

Сучасны культурны канфлікт — ня проста сутыкненьне розных эстэтычных канцэпцыяў. Для Беларусі гэта пытаньне нацыянальнай экзыстэнцыі. Калі дзяржава і яе адпаведныя ўстановы не выконваюць сваіх натуральных функцыяў — абароны нацыі і яе інтарэсаў, гэтыя функцыі мае пераняць грамадзтва і грамадзкія структуры. Грамадзтва нават за савецкім часам імкнулася (хаця і сіламі меншасьці) захаваць нацыянальную традыцыю, эўрапейскую беларускую культуру. Сёньня для такой дзейнасьці ёсьць нашмат больш магчымасьцяў.

***У самім грамадзтве пашыраецца цікавасьць да сваёй ідэнтычнасьці і да нацыянальнае культуры і традыцыяў. Перад недзяржаўным сэктарам паўстае, магчыма, адзін з самых істотных выклікаў за апошнія чвэрць стагодзьдзя: зрабіць важкі ўнёсак у справу выратаваньня нацыянальнай культуры і беларускай ідэнтычнасьці.***



# МАГЧЫМАСЬЦІ: ДЗЯРЖАЎНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА І СТРАТЭГІЯ ГРАМАДЗЯНСКАЙ СУПОЛЬНАСЬЦІ

Дзяржаўная культурная палітыка вызначаецца такімі дакумэнтамі, як ***Закон Рэспублікі Беларусі "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь", Кодэксам Рэспублікі Беларусі аб культуры (праект), дзяржаўнымі праграмамі (Праграма "Культура Беларусі" і пад.)***, іншымі законамі і ўказамі. У гэтых дакумэнтах дэкляруецца адданасьць міжнародным актам і канвэнцыям па ахове культуры, аддаецца перавага захаваньню культурнай спадчыны, разьвіцьцю творчых патэнцыялаў і г.д. Але насамрэч і дух, і практыка гэтых дакумэнтаў вельмі далёкія

ад эўрапейскіх прынцыпаў і не адпавядаюць дэклянаваным у іх мэтам і задачам. Сфэра культуры разглядаецца дзяржаваю пераважна паводле схемы “вытворчасьць-спажываньне”, якая дзейнічае як дзяржаўная галіна, падтрымка ініцыятываў і талентаў адбываецца толькі адпаведна ідэалягічным наказам, а захаваньне культурнай спадчыны знаходзіцца ў занядбаньні і часта трапляе ў залежнасьць ад камэрцыйна-карупцыйнай дзейнасьці. Немалыя на першы погляд сродкі культурных бюджэтаў часта марнуюцца на неэфэктыўныя ды ідэалягізаваныя праекты, а тым часам сфэра культуры застаецца малапрэстыжнай і непрыбытковай галіной дзяржаўнае сыстэмы.

Калі прыняць афіцыйны пункт гледжаньня — усё выглядае добра — сродкі выдзяляюцца і выдаткоўваюцца, аб’екты функцыянуюць, справаздачы ўхваляюцца. Але пры аб’ектыўным разглядзе відавочна — у цэлым культурніцкая дзейнасьць у Беларусі ў стане цяжкай стагнацыі. Беларускія літаратура, кіно, тэатар, музыка і пластычныя мастацтвы амаль незаўважныя і малазапатрабаваныя ня толькі на сусьветным узроўні, але нават і ў самой Беларусі. Так званая “высокая культура” практычна не ўплывае на сьвядомасьць і жыцьцё беларусаў, а масавая культура дэманструе пасрэдныя якасьці і ў сутнасьці ёсьць правінцыйным варыянтам расейскай маскультуры, якая дамінуе на беларускім рынку. Помнікі разбураюцца пад камэрцыйныя аб’екты, а музэі і дамы культуры марнеюць ад недахопу сродкаў і ўвагі грамадзтва. Паводле даволі стрыманай

ацэнкі "Маніторынгу ЮНЭСКА", ***"У дачыненьні да ўмоваў для захаваньня і разьвіцьця культурнай разнастайнасьці атрыманыя зьвесткі і ацэнкі экспэртаў сьведчаць пра тое, што сфэра знаходзіцца хутчэй у стадыі кансэрвацыі, чым у стане разьвіцьця".***

Гэты несуцяшальныя стан — стан афіцыёзу. Афіцыёзу, на які ідзе ільвіная доля дзяржаўных сродкаў і дзяржаўнай увагі. У той жа час можна прывесьці зусім іншыя прыклады:

> ***беларуская пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч атрымлівае Нобэлеўскую прэмію, беларускія выканаўцы Сяргей Міхалок і Лявон Вольскі зьбіраюць шматтысячныя аўдыторыі па-за межамі дзяржавы, у розных гарадах Беларусі сотні людзей рэгулярна зьбіраюцца на курсы беларускай мовы, удзельнічаюць у фэстах і конкурсах...***

Сьпіс цікавых і пасьпяховых зьяваў можна працягваць на старонкі. Але ўсё гэта — зьявы незалежнай эўрапейскай беларускай культуры, нонафіцыёзу. На гэта не разьлічваліся “нацыянальныя культурныя праграмы” і не выдаткоўваліся дзяржаўныя сродкі. Наадварот — гэтая культура забараняецца, выціскаецца зь дзяржавы, у лепшым выпадку ёю не заўважаецца. Менавіта ў сфэры нонафіцыёзу захоўваецца і разьвіваецца праўдзівая нацыянальная культура. Гэта прастора крэатыўнасьці, нонканфармізму і вольнай ініцыятывы — натуральная прастора для дзейнасьці грамадзкага сэктару.

Такім чынам, для грамадзянскай супольнасьці і грамадзкай актыўнасьці, для НДА натуральным шляхам адкрываецца амаль неабмежаваная прастора магчымасьцяў. Тое, што ня ў стане альбо не жадае рабіць дзяржава для падтрымкі незалежнай нацыянальнай культуры, павінна браць на сябе грамадзтва. Значную частку такой падтрымкі і зараз ажыцьцяўляе грамадзкі сэктар і ягоныя структуры.

Але ў сёньняшняй небясьпечнай для краіны сытуацыі падтрымка і разьвіцьцё нонафіцыйнай культуры становіцца справай ня менш важнай, чым абарона правоў ці экалёгія. Неабходнае стварэньне ***Нацыянальнай культурнай стратэгіі грамадзянскай супольнасьці,*** якая б уключала аб’ектыўны аналіз сытуацыі, дакладнае вызначэньне мэтаў і задачаў для

структураў грамадзянскай супольнасьці, рэкамэндацыі да стварэньня праграмаў і мэтадаў працы, прынцыпы і мэханізмы каардынацыі розных суб'ектаў. Такая стратэгія вызначыла б кірунак культурніцкай дзейнасьці грамадзкага сэктару на працяглы пэрыяд і магла быць арыентырам для асноўных партнэраў беларускіх НДА.

***Асамблея НДА Беларусі мае ўсе арганізацыйныя і інфармацыйныя магчымасьці, каб стаць ініцыятарам і вядучай арганізацыяй пры стварэньні і прасоўваньні такой стратэгіі. Надалей, рэалізуючы стратэгію, Асамблея можа ня толькі падтрымліваць пэўныя тэндэнцыі, але разьвіваць і нават фармаваць іх, ствараючы эфэктыўную грамадзкую культурную палітыку.***



# МЭТЫ

Як асноўную мэту такой стратэгіі мы прапануем ***захаваньне, разьвіцьцё і прамоцыю беларускай "нонафіцыйнай" культуры ў розных яе праявах дзеля захаваньня і ўмацаваньня ідэнтычнасьці беларускай нацыі.*** Вынікамі яе рэалізацыі, апроч уласна культурных, будуць таксама і палітычныя — умацаваньне дзяржаўнай незалежнасьці, набліжэньне дэмакратычных зьменаў і шматбаковая інтэграцыя Беларусі ў эўрапейскую супольнасьць.

Мы лічым, што менавіта канцэнтрацыя грамадзкай актыўнасьці ў культурнай і адукацыйнай сфэрах выявіць новы кадравы патэнцыял, дапаможа зварухнуць зь мёртвага пункту палітычную актыўнасьць грамадзтва і будзе моцным фактарам для цывілізацыйнага выбару, які стаіць зараз перад беларусамі.



# КІРУНКІ ПРАЦЫ

Грамадзтва ня можа замяніць дзяржаву і яе структуры, цалкам выконваць яе функцыі. Але на тых кірунках, дзе дзяржава не выконвае сваіх абавязкаў, ігнаруе ці перашкаджае незалежнай культурнай дзейнасьці, варта сканцэнтраваць увагу і намаганьні грамадзкаму сэктару. Можна вызначыць такія асноўныя кірункі:

- ***Удзел.*** Адной з важных тэндэнцыяў сёньняшняй культуры ёсьць удзел людзей ня толькі ў спажываньні “культурнага прадукту”, але ў розных формах крэатыўнай актыўнасьці — ад супольных сьпеваў да фармаваньня гарадзкога асяродзьдзя. Менавіта саўдзел у творчасьці садзейнічае падвышэньню грамадзкай цікавасьці да культуры і мадэрнізацыі такіх культурных зьяваў, як фальклёр. Для дзяржавы гэты кірунак звычайна абмежаваны рознымі “гурткамі самадзейнасьці”, але сёньня гэта вельмі пэрспэктыўны шлях для нонафіцыйнай культуры, на якім грамадзтва можа шмат чаго дасягнуць.

- ***Камунікацыя.*** Камунікацыя паміж творцамі і групамі, паміж этнічнымі культурамі, субкультурамі і г.д. Дзяржава засталася збольшага ў рэчышчы традыцыйных "культурных связяў". Грамадзкі сэктар у Беларусі мае добры досьвед, кантакты і мэханізмы для самых розных формаў культурных камунікацыяў.
- ***Захаваньне.*** Захаваньне помнікаў матэрыяльнай і нематэрыяльнай культуры, незалежна ад іх "ідэалягічнай напоўненасьці", — адна з важнейшых задачаў дзяржавы. Але менавіта беларуская дзяржава дае сыстэмныя збоі. Пашырэньне ініцыятываў дзеля зьберажэньня помнікаў дасьць грамадзтву магчымасьці ня толькі захаваць канкрэтныя аб'екты, артэфакты і зьявы, але далучыць новых актывістаў і папулярызаваць эўрапейскі вэктар беларускай культуры.
- ***Падтрымка.*** Тое, што дзяржава ігнаруе, можа падтрымаць грамадзтва. У самай рознай форме — ад звычайнага мэцэнацтва да стыпэндыяў навучэнцам ці творчых конкурсаў. Арганізацыя выставаў, канцэртаў і фэстаў, выданьне твораў — таксама элемэнты падтрымкі.
- ***Прамоцыя.*** Для культуры і мастацтва прамоцыя і кантакты з атрымальнікам

маюць надзвычайную важнасьць. Арганізацыя сустрэчаў і дыскусіяў, распаўсюд інфармацыі праз розныя каналы, праз СМІ і сеціва — усё гэта і шмат іншага ў сфэры магчымасьцяў НДА і грамадзкіх ініцыятываў.

- ***Адукацыя.*** Грамадзянская адукацыя не заменіць дыплёму ВНУ. Але навучаньне прафэсійным навыкам, рамёствам, дыстанцыйнае навучаньне, абмен досьведам — гэтыя формы актыўна выкарыстоўваюцца ў грамадзкім сэктары.
- ***Абарона.*** Абарона правоў творцаў і атрымальнікаў нонафіцыйнай культуры, спыненьне забаронаў і пераадоленьне ідэалягічных стэрэатыпаў. Гэты кірунак таксама добра знаёмы грамадзянскай супольнасьці.

Пералічанымі кірункамі, якія да таго ж часта перасякаюцца, зразумела, не вычэрпваецца тое, што можа плянаваць і рабіць “трэці сэктар” у галіне культуры. Але гэты падзел дапаможа распрацоўваць стратэгію і плянаваць віды дзейнасьці, скіраваныя на вырашэньне мэтаў стратэгіі.



# ПЭРСПЭКТЫВЫ ДЗЕЙНАСЬЦІ

Да прыняцьця спэцыяльна распрацаванай культурнай стратэгіі варта разгортваць даступную для грамадзкага сэктару працу, напрыклад, рэалізоўваць наступныя віды дзейнасьці:

- ***Стварэньне на базе Асамблеі НДА*** пастаяннай групы, у функцыі якой уваходзіла б распрацоўка культурніцкай стратэгіі ды адпаведных дакумэнтаў, маніторынг культурных ініцыятываў, каардынацыя і плянаваньне ў культурніцкай сфэры.
- ***Арыентацыя праграмаў падтрымкі*** грамадзкага сэктару Беларусі на дзейнасьць дзеля разьвіцьця нонафіцыйнай культуры і нацыянальнай ідэнтычнасьці, прамоцыі беларускай культуры і каштоўнасьцяў.
- ***Ініцыяваньне працяглых праграмаў падтрымкі*** культурнай дзейнасьці
- ***Маніторынг матэрыяльных і нематэрыяльных помнікаў*** беларускай

культуры, ініцыяваньне захадаў дзеля захаваньня культурнай спадчыны.

- ***Працяг грамадзкіх дыскусіяў*** аб праблемах культуры, мовы, адукацыі, ідэнтычнасьці. У пэрспэктыве шырокая грамадзкая дыскусія (з удзелам усіх бакоў) пра дыхатамічнасьць сучаснай беларускай культуры і шляхі яе пераадоленьня.
- ***Ініцыяваньне культурнага абмену*** паміж крэатыўнымі групамі і асобнымі творцамі з эўрапейскіх краінаў.
- ***Ініцыяваньне ўстойлівых праграмаў абмену*** досьведам і навучаньня актывістаў культурнай сфэры найперш з краінамі Сярэдняй Эўропы, якія маюць падобныя культурныя рысы і гістарычны досьвед.
- ***Каардынацыя і пляневаньне грамадзкага дыялёгу*** і, пры неабходнасьці, ціску на дзяржаву з мэтамі зьмены заканадаўчых і фінансавых умоваў, спыненьня забаронаў і цкаваньня, дазволу ладзіць пэўныя мерапрыемствы і г.д.

Адпаведна фармаваньню культурнай стратэгіі пералік дзейнасьці павінен канкрэтызавацца, удакладняцца і пашырацца.



# ВЫСНОВЫ

Стварэньне Нацыянальнай культурнай стратэгіі грамадзянскай супольнасьці, на нашую думку, будзе адэкватным адказам на выклікі часу. Небясьпека страты незалежнасьці і дэзінтэграцыі краіны сёньня не акадэмічнае пытаньне. У сытуацыі, калі ані дзяржава, ані іншыя “палітычныя сілы” ня маюць рэальных стратэгіяў і праграмаў абароны нацыі, яе інтарэсаў, значную частку адказнасьці за гэтую працу могуць і павінны браць на сябе арганізацыі і асобы, якія прадстаўляюць грамадзянскую супольнасьць Беларусі. Асамблея НДА, як важкая частка грамадзянскай супольнасьці, павінна выразна ўключыць у сваю місію абарону і разьвіцьцё ***нацыянальнай ідэнтычнасьці*** ды пачаць стварэньне і рэалізацыю адпаведнай Стратэгіі.

Праблема існаваньня ў краіне розных, шмат у чым канфліктных ідэнтычнасьцяў ня можа быць вырашаная толькі палітычнымі шляхамі. Грамадзянская супольнасьць, як носьбіт беларускай эўрапейскай ідэнтычнасьці, павінна адыграць сваю галоўную ролю ў захаваньні Беларусі як часткі цывілізаванага сьвету.

